Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Выпіска: на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

№ 3 (37) Вільня, 1 лютага 1939 г. Год IV

## Што такое нацыяналізм?

У першым нумары „Бел. Фронту" сёлета, пішучы на тэму „Новагоднія разважаньні", мы адзначылі вялікую сілу нацыянальнай ідэі або г. зв. нацыяналізму. Мы тады сьцьвердзілі, што нацыяналізм зьяўляецца сяньня вялікай дынамічнай сілай, якая нясе сьвету глыбокія палітычныя перамены. І сапраўды, прыглядаючыся ўважна да сучасных падзеяў, ня толькі ў Эўропе, але ў Азіі, Афрыцы, мы прыходзім да вываду, што галоўным мотарам гэтых падзеяў ёсьць нацыяналізм.

Дык што такое нацыяналізм?

Нацыяналізм — гэта кірунак чалавечай думкі, якая імкнецца да ажыцьцяўленьня мэт, карысных для нацыі — народу. Значыць, першай і галоўнай падставай нацыяналізму ёсьць існаваньне народу (нацыі), а другой — каб гэты народ меў свае мэты. Ясна, што свае мэты можа мець толькі сьведамы народ. Бяз гэтых двух падстаў, гэта значыць, без існаваньня нацыі і без наяўнасьці мэт у гэтай нацыі, нацыяналізм немагчымы.

Мэты ў кожнай нацыі могуць быць розныя — і залежна ад мэт, можа быць розны нацыяналізм. Гэтак — на першым пляне можна паставіць абарону нацыі ад гібелі, інакш кажучы, ад нацыянальнай сьмерці. Гэтакую мэту мае той народ, якому грозіць асыміляцыя з боку мацнейшых народаў. У гэтакага народу бывае нацыяналізм *абаронны*.

Іншай мэтай можа быць развой народу ў кірунку палітычным, эканамічным і культурным. Што датыча развою ў *палітычным* кірунку, дык нацыя, пранятая духам нацыяналізму, ідзе да здабыцьця для сябе роўных правоў з іншымі народамі, да закладзін сваей дзяржаўнасьці і да адыграньня пэўнай ролі ў сусьветных падзеях; у *эканамічным* кірунку — да стварэньня як найлепшых варункаў эканамічнага жыцьця для свайго народу, а ў *культурным* — да развою літаратуры, навукі, мастацтва і ўсяго, што зьвязана з асьветай і культурай народу. Гэта ёсьць нацыяналізм *творчы*.

Але ёсьць яшчэ іншы нацыяналізм, які выяўляецца ў пашыраньні ўплываў аднаго народу на іншыя народы. Пашыраньне ўплываў адбываецца або мірным спосабам, або пры помачы сілы. Мірнае пашыраньне культуры аднаго народу на іншыя народы адбываецца тады, калі культура гэнага народу, ягоная літаратура, навука і мастацтва, натолькі вялікія, што не прыняць іх немагчыма, а пашыраньне сілаю адбываецца тады, калі сільнейшы народ забірае пад сваю ўладу слабейшы і стараецца яму накінуць сваю культуру, а разам з культурай сваю нацыянальнасьць. Гэта ёсьць нацыяналізм *імпэрыялістычны*.

Гэтакім парадкам адрозьніваем нацыяналізм абаронны, творчы і імпэрыялістычны.

У абаронным нацыяналізьме знаходзім *сьведамасьць* нацыянальнай апрычонасьці і *волю* бараніць свой народ ад нацыянальнай сьмерці. Абаронны нацыяналізм выступае галоўна ў народаў падняволеных. Але абарону нацыі трудна было-б правесьці без нацыянальнай творчасьці, а гэта дзеля тэй прычыны, што той народ, каторы толькі бароніцца, а нічога ня творыць, уканцы ня выдзяржыць і паддасца другому народу. Можна сказаць з цэлай пэўнасьцяй, што народы, якія толькі бароняцца і не выказваюць творчасьці, зьнікнуць з вобліку зямлі, як нацыі. Значыць, нацыя, бароняючыся, павінна адначасна тварыць, разьвіваючы свае нацыянальныя вартасьці, сваю мову, сваю літаратуру і мастацтва, ідучы разам з гэтым, да здабыцьця для сябе палітычных правоў, роўных з іншымі народамі. Нацыя, якая-б адказалася або не імкнулася да роўных з іншымі народамі правоў ня ёсьць поўнавартаснай нацыяй і не заслужвае нават на іменьне нацыі.

Творчы нацыяналізм кожнай поўнавартаснай нацыі вядзе тую нацыю да стварэньня сваей дзяржавы. Гэта мы бачылі ў народаў: польскага, літоўскага, чэскага, латыскага і іншых. Без сваей дзяржавы нацыя ня мае свабоды, якая патрэбна да разьвіцьця творчых сіл народу, яго літаратуры, навукі, мастацтва, эканомікі і г. д. Усебакова разьвіваць свае нацыянальныя вартасьці нацыя можа толькі ў сваей дзяржаве. Дый дзяржава па Вялікай вайне паўстала найбольш на нацыянальнай, а не якой іншай падставе, добра мусіць разумеючы, што нацыянальныя асаблівасьці (мова, нац. характар, звычаі і традыцыі) найболей лучаць і цэмэнтуюць людзей. Гісторыя нас вучыць, што дзяржавы, зложаныя з некалькіх нацыянальнасьцяў, развальваліся, а яшчэ ня было выпадку, каб развалілася дзяржава, зложаная з аднэй сьведамай нацыі. Дык для дабра нацыі і дзяржавы трэба, каб гэтыя два паняцьці супадалі, тварылі адно цэлае.

Да сутнасьці творчага нацыяналізму патрэбны: *сьведамасьць* сяброў данай нацыі аб сваім фізычным і псыхічным сваяцтве; *воля* падняцьця гэтай нацыі і зраўнаньня яе з іншымі нацыямі; *праца* дзеля разьвіцьця нацыянальных вартасьцяў народу, яго мовы, літаратуры, навукі, мастацтва, а такжа падняцьця ягонага эканамічнага і палітычнага бытаваньня. Такога творчага нацыяналізму спыняць ніхто ня мае права, ані свой, ані чужы. Хто-б спыняў, той грашыў-бы проціў свайго, або проціў чужога народу. Калі мы шануем правы адзінкі-індывідууму, дык яшчэ болей павінны шанаваць правы народу.

З усяго, што мы сказалі, вывад такі, што нацыя без нацыяналізму існаваць ня можа; што кожная нацыя мае свой арыгінальны нацыяналізм; што кожны, хто працуе для дабра нацыі, або бароніць яе, ёсьць у такім ці іншым сэнсе нацыяналістам. Дык сапраўдны нацыяналіст кіруецца заўсёды дабром сваей нацыі і перш на перш мае гэтае дабро на ўвеце ў сваей палітычнай, культурнай, эканамічнай і ўсякай іншай працы.

## ПАМІЖ УСХОДАМ і ЗАХАДАМ.

Ужо ад некалькіх месяцаў мы зьмяшчаем на гэтым месцы артыкулы аб усходня-эўрапэйскіх справах. Гэта зразумела. Як Усход так і Захад можа стацца арэнай вялізарнага змаганьня за новы лад і дзеля гэтага падзеі, якія могуць адбывацца ў хуткім часе, цікавяць усіх. Цяпер найбольшай загадкай для палітычнага сьвету зьяўляецца пытаньне, куды скіруецца Нямеччына, на Ўсход, ці на Захад? Пытаньне гэтае мы стараліся выясьніць у папярэднім нумары „Б. Фронту", вылічаючы факты, якія сьведчылі-б, што Ням. пойдзе на Ўсход, а такжа факты аб магчымасьці заходняга яе кірунку. Да гэтага часу справа аканчальна ня выясьнілася і трэба прызнаць, што **сапраўдныя намеры Нямеччыны па сяньняшні дзень няведамы.** Кірунак Нямеччыны зьяўляецца загадкай для ўсяго палітычнага сьвету. Відаць ваенная тайніца скрыта глыбока.

Да тых фактаў, якія мы падалі ў папярэднім нумары і якія мелі-б сьведчыць аб усходнім кірунку Нямеччыны (шуканьне ёю згоды з Англіяй і Францыяй, рэестрацыя беларусаў і ўкраінцаў у Нямеччыне, утварэньне Камісарыятаў для Беларускіх і Ўкраінскіх спраў, стварэньне Карпацкай Украіны і г. д.) можна яшчэ дадаць два: апекаваньне праваслаўем і кантакт з казацтвам. У апошнім часе Ням. моцна заінтарасавалася праваслаўем, нясучы яму моральную і матар'яльную помач, што ярка выявілася пры нядаўнім пасьвячэньні новай царквы ў Бэрліне і назначэньні новага епіскапа; а ад казацтва езьдзіў у Бэрлін з Прагі ген. Попаў. Казацтву Гітлер быццам прырок стварэньне незалежнай казацкай дзяржавы, у якую маюць увайсьці данскія, кубанскія, церскія і ўральскія казакі. Гэтакім чынам Каўказ з ягонай нафтай быў-бы адрэзаны ад Масквы. Пляны Нямеччыны ясны: пры паходзе на Ўсход трэба выкарыстаць усе проціў камуністычныя сілы. Гэтыя пляны прымусілі камуністаў будаваць вялізарныя ўкрапленьні на ўсім працягу іхняй заходняй граніцы і масава высяляць адтуль насельніцтва.

Але ёсьць і новыя факты, якія сьведчылі-б аб тым, што Ням. пойдзе на Захад: узяцьце паўстанцамі Барцэлёны, пасьля чаго Мусоліні, падчас дэмонстрацыі ў Рыме, выкрыківаў з заціснутым кулаком, што „пойдзем далей", відаць, маючы на ўвазе Францыю; другі факт — гэта вываз золата ў Англію і Амэрыку з Бэльгіі, Галяндыі і Швайцарыі, пры гэтым Швайцарыя схавала часьць свайго золата ў горах, у няпрыступным і таёмным месцы... Трэці факт ужо вельмі сэнсацыйны: навязаньне паміж Нямеччынай і Саветамі перагавораў у справе гандлёвага трактату. Кажуць яшчэ, што перагаворы, якія адбываюцца ў Маскве, маюць такжа палітычныя мэты... Нам здаецца, што калі і сапраўды ў Маскве адбываюцца гутаркі паміж немцамі і бальшавікамі, дык яны маюць болей дэманстрацыйны, чым канкрэтны характар, з мэтай напужаць тыя дзяржавы, якія ляжаць паміж Ням. і Расеяй... А можа Ням. перад пахо-

дам паставіла Саветам свае варункі і ў гэтай справе вядзе з імі перагаворы? Як там ёсьць — няведама, але трэба прызнаць, што перагаворы з Масквою зьяўляюцца вельмі спрытным дыпляматычным ходам з боку Нямеччыны. Цікава тое, што весьці аб нямецка-савецкіх перагаворах якраз супалі з прыездам у Варшаву Рыбэнтропа!

Чаго прыежджаў Рыбэнтроп?

Афіцыяльна было паведамлена, што гэта ёсьць рэвізыта з боку Нямеччыны на візыту мін. Бэка ў Бэрліне ў 1935 г. Толькі зьвярнула ўвагу палітычных кругоў вялікая колькасьць дарадцаў (30 чалавек) і журналістаў (20 чал.), якія прыехалі разам з Рыбэнтропам. З гэтага робяць вывад, што рэвізыта мела шырэйшыя і глыбейшыя мэты. Праўда, пасярод дарадцаў ня было вайсковых, але гэта не паменшае значэньня прыезду ў Варшаву Рыбэнтропа.

Аб канкрэтных рэзультатах гэтага прыезду пакульшто глуха. «Gazeta Polska» пісала, што дыпляматычныя ходы і пляны трэба дзяржаць у тайне, бо шмат ёсьць ворагаў, якія маглі-б пашкодзіць. Дык весткі аб рэзультатах прыезду Рыбэнтропа маем вельмі скупыя і агранічаныя да афіцыяльных паведамленьняў. Такіх паведамленьняў было з боку польскага два: вывед, дадзены мін. Бэкам амэрыканскай прэсе і афіцыяльны камунікат аб рэзультатах гутарак у Варшаве.

Вывед быў дадзены напярэдадні прыезду Рыбэнтропа. У гэтым вывядзе **мін. Бэк сконкрэтызаваў польскую палітыку ў трох пунктах:** 1) добрыя адносіны з усімі суседзямі, як з Нямеччынай так і СССР; 2) лёяльнае захаваньне саюзаў, якія Польшч мае з Румыніяй і Францыяй; 3) супраціўленьне ўсім пастановам, якія будуць прыняты без удзелу Польшчы. Апроч гэтага мін. Бэк заявіў, што ўхіляецца ад усялякага супрацоўніцтва з напасьлівымі плянамі, скіраванымі супроць аднаго з двух суседзяў і што Польшч інтарасуецца справай кэлёніяў, бо шукае абшараў для эміграцыі і сыравіны для свайго промыслу. Дзеля гэтага Польшч у цяперашняй хвіліне шукае супрацоўніцтва з краямі, якія маюць каляніяльныя прасторы.

З апошняга сказу выглядае, што Польшч хоча супрацоўніцтва з Англіяй і Францыяй.

У камунікаце было пададзена да публічнага ведама, што былі абгавораны ўсе справы, якія датычаць абедзьвух дзяржаў, пры гэтым было пастаноўлена, што **цяперашнія і будучыя праблемы будуць вырашаны ў духу прыязьні і пакту ненападаньня з 1934 г.** Апроч гэтага было абгаворана міжнароднае палажэньне. Якія гэта маюць быць цяперашнія і будучыя праблемы, у камунікаце не сказана. «Słowo» (28.I) зварочвае ўвагу на слова **будучыя** праблемы, а «Gazeta Polska» кладзе націск на далейшы цяг палітыкі, паказанай ў 1934 г. Язэпам Пілсудскім і Адольфам Гітлерам.

Наагул польская прэса мала чаго канкрэтнага піша аб рэзультатах візыты Рыбэнтропа, але піша спакойна, гэта знак, што безпасрэднай небясьпекі няма. Проўрадавая прэса паўтарае на ўсе лады тое, што было сказана мін. Бэкам, затое апазыцыйная прэса вельмі востра крытыкуе палітыку Бэка. Віл. „Слово“, напрыклад, якое стаіць за польска-нямецка-францускі саюз і за паход разам з Ням. на Расею з мэтай ускрашчэньня гістарычнай Польшчы, піша, што нэўтральнасьць мін. Бэка ёсьць у сучаснасьці немагчымай, бо Польшч ня можа быць нэўтральнай і мусіць узяць удзел у эўрапэйскай дыпляматычнай ігры. „Слова“ нездаволенае, што варш. гутаркі не далі дэцыдуючых рэзультатаў у гэтым кірунку і кажа, што адкладываньне дэцызыяў у польска-нямецкіх адносінах — гэта страта для Польшчы, бо час працуе не на карысьць Польшчы...

Загранічная прэса таксама піша, што візыта Рыбэнтропа не прынясла ніякіх зьмен у ням.-польскім пакце з 1934 г. і што ня трэба спадзявацца на гэтым фронце ніякіх неспадзевак і дакананых фактаў. Апроч гэтага адзначаецца, што Польшч астаецца вернай саюзу з Францыяй і не далучыцца да антыкамуністычнага пакту

Гэтак прадстаўляюцца рэзультаты візыты мін. Рыбэнтропа ў Варшаве. З гэтага можам зрабіць вывад, што Польшч астаецца на плятформе, выказанай мін. Бэкам у яго вывядзе, дадзеным амэрыканскай прэсе, г. зн. што Польшч разам з Ням. на ўсход ня пойдзе і астаецца нэўтральнай, а мэта прыезду ў Варшаву Рыбэнтропа было здабыць Польшч для сваіх усходніх плянаў, а калі гэта ня ўдасца, дык каб Польшч прынамся асталася нэўтральнай у будучых падзеях...

Значыць Польшч на Ўсход разам з Ням. ня пойдзе. А Нямеччына? Гэтая, кажуць, пойдзе, але кудою? Адны кажуць, што праз Чэхаславаччыну, Вугрыю і Румынію, другія, што праз Літву і Латвію, прыгэтым сэнсацыйная прэса піша, што Латвія украпляе свае порты: Лібаву, Віндаву і Рыгу, каб перашкодзіць высадзіцца немцам... Ізноў у літоўскай прэсе зьявілася думка, што Ням. мае злучыць Фінляндыю і Эстонію ў вадну дзяржаву, відаць, каб замкнуць уход у Фінскую затоку; таксама ў вадну дзяржаву хоча быццам злучыць Літву, Латвію і Сав. Беларусь — словам, вестак многа, ад найпрасьцейшых да найболей загадковых.

З усяго відаць, што паміж Усходам і Захадам за кулісамі адбываецца нейкая гарачая дыпляматычная акцыя. У гэтай акцыі вядуцца перагаворы, укладаюцца пляны, ставяцца варункі, падлічаюцца сілы, запэўняюцца нэўтральнасьці, вырашаюцца праблемы. Ці ў надыходзячых падзеях будзе вырашана беларуская праблема, шмат залежыць ад саміх беларусаў, ад іх салідарнасьці і палітычнай актыўнасьці.

А. В.

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Праект пасла Мудрага** „Кур'ер Віл.“ (22.I) у даўгім артыкуле пад заг.; „Паляшукі — народ бяз бацькаўшчыны“ зартымліваецца над ведамым праектам пасла Мудрага, старшыні Ўкраінскай парлямэнтарнай Рэпрэзэнтацыі ў Польшчы. Праект гэты ў „Słowie“ (28.XII.38) быў сканфіскаваны, дзеля гэтага ня можам зазнаёміць з ім нашых чытачоў. У праекце гэтым да ўкраінскай этнаграфічнай тэрыторыі залічаны ўсе паветы Палескага ваяводзтва, апроч Лунінецкага і Косаўскага, а такжа Бельскі пав. Беластоцкага ваяводзтва. Мы ўважаем, што залічаньне некаторымі ўкраінскімі дзеячамі і навукоўцамі бадай усяго паўночнага Палесься з Бельшчынай і Пружаншчынай уключна да ўкраінскай этнаграфічнай тэрыторыі ёсьць нязгодна як з пункту гледжаньня этнаграфіі так з пункту гледжаньня сьведамай волі насельніцтва паўночнага Палесься, якое здэцыдавана заяўляе аб сваей беларускасьці.

Да гэтай справы мы яшчэ вернемся.

**Рэха высяленьня.** Высяленьне з Вільні трох бел. дзеячоў адбілася моцным рэхам і ў нямецкай прэсе. Кракаўскі ІКЦ (20.I.) прыносіць голас уплывовага „Essener National-Zeitung“, каторы змагаецца за правы для немцаў у кожнай дзяржаве, у якой яны жывуць, а такжа за правы для тых нац. меншасьцяў, каторых імкненьні для Нямеччыны карысны. Прыгэтым ІКЦ кажа, што немцы ўважаюць сябе за тварцоў ідэі самаазначэньня народаў і робяць з гэтай ідэі нейкі нямецкі патэнт і манаполь. Гэтак „Essener National-Zeitung“ зьмяшчае артыкул пад заг.: „Беларуская праблема ў Польшчы“, у якім навязваючы да высяленьня двух беларускіх ксяндзоў і аднаго журналіста з віленскага ваяводзтва, будуе штучную беларускую праблему, як кажа ІКЦ, якая зьяўляецца цяпер „прадметам жывой палітычнай дыскусіі“. Прыгэтым „Essener National-Zeitung“ адзначае, што высяленьне трох павадыроў беларускага руху з Віленшчыны не разьвяжа беларускай праблемы.

ІКЦ на ўсё гэта адказвае, што ў нямецкай газэце найболей кідаецца ў вочы тон. Гэта ня ёсьць тон кронікарскай вернай справаздачы, але тон, у якім выражаецца здаваленьне, што беларуская праблема маглаб прынясьці Польшчы труднасьці. З прыкрасьцяй трэба сьцьвердзіць, кажа ўканцы ІКЦ, што спосаб гледжаньня аднае з найболей паважных і пашыраных нямецкіх газэт ня ёсьць адпаведным спосабам гледжаньня для польска-нямецкіх адносін.

Ад сябе адзначым, што «Essener National-Zeitung» ёсьць органам прэм'ера Гэрынга.

**За чужыя ідэі.** Польская прэса („Кур. Віл.“ з 20 і 24 I.) прынясла весткі аб двух масавых працэсах, якія адбываліся ў Наваградку, за камуністычную дзейнасьць. У адным працэсе было падсудных 17 чалавек, з якіх 14 засуджаны на турму ад 2 да 8 гадоў, а 3 апраў-

# Нацыянальна-грамадзкія матывы ў творчасьці Міхася Машары.

*(З нагоды 10-ых угодкаў працы на літаратурнай ніве).*

Летась кончылася 10 гадоў ад першага выступленьня Міхася Машары на літаратурнай беларускай ніве. За гэты час беларускае грамадзянства добра пазнаёмілася з нашым песьняром і няраз выказвала яму свае сымпатыі. Прысьвецім гэтыя словы яму і мы, спыняючыся фактычна толькі над нацыянальна-грамадзкімі матывамі ягонай творчасьці, бо лічым, што яны найбольш ярка характэрызуюць індывідуальнасьць Машары і азначаюць ягонае месца ў беларускай літаратуры.

Творы Машары друкаваліся ў часапісах: „Нёман“, „Студэнцкая Думка“, „Шлях Моладзі“, „Калосьсе“, „Маладая Беларусь“ і інш., а такжа вышлі асобнымі зборнікамі. Апошні зборнік „З пад саламяных стрэх“ быў сканфіскаваны.

Аб Машары шмат пісала і піша беларуская крытыка, вывады якой больш менш гэткія. Машара—паэт самародак, лірык. Лірызм яго выклікаюць розныя зьявы жыцьця, розныя думкі і стан псыхічны паэта. Тэматыку Машары твораць у пераважнай большасьці матывы траякага роду: **беларуска-нацыянальныя, грамадзкія, прырода-апісальныя,** ды **асабістыя.** З боку артыстычнага творы Машары адзначаюцца быццам даволі вялікай убогасьцю стылю і мовы, мала ў яго стылістычных фігураў, якія часта паўтараюцца. Некаторыя творы Машара быццам пушчае ў друк, не апрацаваўшы іх належна.

Машара піша шмат, хоць апошнім часам муза яго троху прыціхла. Усёж ён ужо здабыў азначанае месца ў беларускай літаратуры. Машара — ў поўным сэнсе слова **народны** песьняр новае нацыянальнае Беларусі. Аб гэтым сьведчаць творы паэта, напісаныя на матывы беларуска-грамадзкія і нацыянальныя. Машара аддзяляецца выразна ад паэтаў нашаніўскіх. Спатыканыя дзе-ня-дзе нашаніўскія матывы ў Машары ня могуць падважыць агульнага характару яго твораў, які з гледзішча ідэолёгічных мэтаў новай Беларусі вызначаецца яснасьцю. Хоць шлях Машары цярністы, але ён йдзе ім цьвёрдым пэўным шагам. Розныя блытаныя сьцежкі ці гасьцінцы, каторыя, пэўна-ж, паэт спатыкае на сваім шляху, ня цягнуць Машары, да сябе і ён іх спакойна мінае. Гэтым Машара імпануе і з гэтага гледзішча ў сучаснай нашай літаратуры ён займае бязспрэчна першае месца.

З боку нацыянальнага зьместу сваей творчасьці Машара зьяўляецца народным паэтам сьведамай Беларусі таму, што апявае і будзіць у народзе найвышэйшыя ідэалы новай Беларусі. Як-жа прадстаўляецца гэта сьведамая Беларусь у песьнях Машары? Перш на перш гэта ёсьць Бацькаўшчына беларускага народу, які складаецца з сялян і работнікаў. Незалежніцкія ідэалы знаходзяць у Машары поўнае адбіцьцё і абаснаваньне: гонар народу патрабуе іх і толькі незалежнасьць гварантуе справядлівае вырашэньне сацыяльнага пытаньня. Але мала гэтага. Беларусь нават у гэткім разуменьні для Машары не зьяўляецца яшчэ поўнай. Беларусь Машары — гэта не бяздомны падарожнік, каторы толькі што прыплёўся, ды патрабуе сабе месца. Беларусь у Машары — гэта спрадвечны гаспадар сваей зямлі. Гістарычны дабытак беларускага народу, яго лепшыя традыцыі жыва злучаны ў Машары з Беларусьсю сучаснай і будучай, а сымболем гэтай суцэльнасьці ў Машары зьяўляецца беларуская Пагоня, сьцяг якой Машара моцна трымае ў руках. Нажаль слабое разьвіцьцё нашай гісторыёграфіі перашкаджае Машары, ды і агулам нашым паэтам, поўнай жменяй чэрпаць тэматыку з беларускай мінуўшчыны. Але мамэнты выясьненыя ў беларускай гісторыі ахвотна знаходзяць водгук у Машары. („Смерць Кастуся Каліноўскага“, „Мамчына горка“ — паколькі яна датычыць сацыяльных адносін у Беларусі і інш.). Трэба спадзявацца, што разьвіцьцё беларускай гісторыі дасьць магчымасьць нашым паэтам абняць яе сваей тэматыкай і ў гэты спосаб выпаўніць у нас нястачу гістарычнай літаратуры, каторая злучыць беларускую мінуўшчыну з сучаснасьцю і будзе вялізарнай вагі асьведамляючым дзейнікам. Але гэта, нажаль, можа і недалёкай, але ўсё-ж справа будучыні.

Як бачым, пагляды Машары на сутнасьць сучаснага беларускага руху глыбока нацыянальныя. Тут з ім павінен згадзіцца кожны шчыры беларус. З гэтага гледзішча Машара не патрабуе шукаць ніякіх новых гасьцінцаў, ніякай новай ідэолёгіі, а толькі паглыбляць і пашыраць ужо выробленую. Гэта яснасьць нацыянальных поглядаў Машары зьяўляецца аднэй з найважнейшых прычын **оптымізму** ў яго творчасьці. І гэта зразумела, бо для Машары будучыня Беларусі ёсьць справай выясьненай. Часамі ў нашай крытыцы можна спаткаць галасы, што для Машары ня ёсьць чужым і пэсымізм, што цяжкая беларуская сапраўднасьць прымушае паэта часта хістацца, замыкацца ў сабе, давадзіць яго да адчаю. Але тут хіба маем непаразумленьне, каторае аб'ясьняецца тым, што ў нашай крытыцы няраз выяўляецца памылковы пагляд на сутнасьць пэсымізму ў літаратуры. Часта ў нас лічаць пэсымістычным твор, каторы зьмяшчае хоць і праў-

застасаваць правіла, што „слабая адзінка заўсёды астанецца слабою“.

Гэтак прадстаўляецца „ідэолёгічны“ падзел нашай вёскі. Ці ён поўны і дакладны — судзіць не бяромся, няхай асудзяць нашы чытачы. Каліб хто меў якіясь свае спасьцярогі і ўвагі, вельмі прасілі прысылаць іх у рэд. „Б. Ф.“.

### З Т-ва БЕЛАРУСАВЕДЫ пры ЎСБ.

Таварыства Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце ў гэтым годзе зарганізавала сыстэматычныя курсы з беларускае гісторыі, літаратуры і языкаведы. На лектараў запрошаны: А. Луцкевіч, Я. Станкевіч і М. Шкялёнак. Першыя лекцыі адбыліся 22 і 29 студня с. г.

### ВЫСЯЛЕНЬНІ...

З г. зв. пагранічнай паласы Наваградчыны выселены гэткія Беларусы:

Мікалай Лецко з в. Вербіцы, Негневіцкай вол., Піліп Карповіч з в. Поплавы, Негневіцкай вол., Тамаш Жук з в. Жукі, Шчорсаўскай вол., Іван Копаць з в. Лясок, Карэліцкай вол., Анатоль Бар'яш з в. Лясок, Карэліцкай вол., Мікалай Селівончык з Маўчадзкай вол.

### УСЁЖТАКІ ЗАБАРАНЯЮЦЬ...

Як мы ўжо пісалі ў папярэднім нумары „Б. Фронту“, у Маладзечанскім пав. паліцыя забараняла прадаваць беларускія календары. У гэтай справе выдаўцы календара зьвярнуліся да Віленскіх ваяводзкіх уладаў. Там Начальнік Грамадзка-палітычнага Аддзелу станоўка заявіў, што ён не дазволіць рабіць якія-колечы перашкоды ў продажы беларускіх календароў, якія прайшлі праз цэнзуру. Ня гледзячы аднак на гэта Маладзечанскія ўлады і далей забараняюць прадаваць беларускія календары. У некалькіх прыпадках выдаўцы календара зьвярнуліся са скаргай да пракурора.

### БЕЛАРУСЫ НА ЧУЖЫНЕ.

**Чэхаславаччына.** Дня 26. XII. 38 г. адбылася ў Празе канфэрэнцыя беларусаў, жывучых у Чэхаславаччыне. Канфэрэнцыя пастанавіла ўтварыць у Празе, як галоўным цэнтры беларускай эміграцыі, **„Беларускі Фонд“** дзеля неабходных выдаткаў, зьвязаных з нацыянальнаю працаю бел. эміграцыі ў Чэхаславаччыне.

„Беларускі Фонд“ складаецца з дабравольных ахвяраў, пачатак якім дадзены патрыятычным уздоймам удзельнікаў канфэрэнцыі, а такжа на падставе абавязкавага ападаткаваньня кожнага беларуса ў Чэхаславаччыне. Дабравольныя ахвяры і іх разьмер залежыць ад патрыятызму і добрай волі ахвярадаўцаў. Ахвяры могуць быць як аднаразовымі так і пэрыядычнымі. Дабравольнае ападаткаваньне праводзіцца кожны месяц і ёсьць нацыянальным абавязкам кожнага беларуса ў Чэхаславаччыне. Нацыянальны падатак складаецца асабіста, або пасылаецца поштай у „Беларускі Фонд“ кожны месяц, у разьмеры сумы, прыпадаючай на адзін дзень з месячнай пэнсіі, ці на адзін дзень з месячнага заработку.

На канфэрэнцыі выбрана **кіраўніцтва „Беларускага Фонду“** ў такім складзе: загадчыкам „Фонду“ выбраны Старшыня Беларускай Рады, **В. Захарка;** скарбнікам — др. **Я. Ермачэнка;** у Рэвіз. Камісію — інж. **В. Русак,** др. **А. Вітушка** і грам. **К. Буська.**

Прыгэтым канфэрэнцыя, маючы на мэце нацыянальныя патрэбы Беларускага народу, зварочваецца да ўсіх беларусаў у Чэхаславаччыне з заклікам да поўнага зразуменьня важнасьці сучаснага момэнту і да выкананьня ў поўнай меры тых нацыянальных абавязкаў, якія ўжо здаўных спаўняе эміграцыя іншых народаў перад сваею Бацькаўшчынаю.

Дзеля зборкі ахвяр канфэрэнцыя ўпоўнаважніла грам. К. Буську, а складкі поштай перасылаюцца на адрас: Др. Ян Ермачэнка, Praha I, ul. u Prašné brany č. 1.

Гэтакія падзеі адбываюцца пасярод бел. эміграцыі ў Чэхаславаччыне. З гэтых вестак мы бачым, што пасярод беларусаў у Чэхаславаччыне наступіў вялікі зрух. Вітаючы ад усей душы закладзіны „Беларускага Фонду“, мы жадаем яму дабра ў ягонай працы.

У **Францыі** бел. нацыянальнае жыцьцё паміж эмігрантаў таксама буйна разьвіваецца. Орган іх „Рэха“ будзе выходзіць кожны месяц, апроч гэтага мае выйсьці ў хуткім часе новы часапіс **„Беларуская Трыбуна“,** які мае абслужваць ня толькі бел. эміграцыю ў Францыі, але і шырэйшыя беларускія кругі, бяз розьніцы палітычных праканаńньяў.

**Літва.** У Коўні 14. I. быў наладжаны драматычнай сэкцыяй Бел. Культурна-Асьветнага Т-ва спэктакль, на якім была адыграна п'еса: „Пінская шляхта“ — Дунін-Марцінкевіча.

# На міжнародным грунце

### АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

У другой палавіне студня адбывалася далей вялікая і глыбокая дыпляматычная гульня, якая пачалася ад вясны мін. году (ад „аншлюсу“ Аўстрыі), а якая яшчэ ўзмаглася пасьля адведзін мін. Бэкам Гітлера (5. I). Пасьля гэтага прыйшла падарожа Чэмбэрлена і Галіфакса ў Рым, якая не дала ніякіх рэзультатаў; потым падарожа вугорскага мін. Чакі (Csaky) ў Бэрлін, якая дала далучэньне Вугрыі да антыкамуністычнага пакту; потым падарожа мін. Чіано ў Белград, якая зусім зблізіла Югаславію да Італіі; потым падарожа чэскага мін. Хвалькоўскага ў Бэрлін, якая дала напружаньне паміж Нямеччынай і Чэхамі; уканцы падарожа мін. Рыбэнтропа ў Варшаву, аб чым пішам на іншым месцы. Як на адзін месяц, дык, здаецца, падарожаў хватае.

Усе гэтыя падарожы маюць сваё глыбокае значэньне і выясьняюць ня толькі саюзы, але і супярэчнасьці паміж дзяржавамі. Напрыклад, падарожа Чэмбэрлена ў Рым не магла даць рэзультатаў, таму што паміж Італіяй з аднаго боку, а Англіяй і Францыяй — з другога ёсьць столькі супярэчнасьцяў у басэйне Міжземнага мора і ў Афрыцы, што пагадзіцца ім вельмі трудна. Яны будуць спрачацца да таго часу, аж пакуль адзін працiўнік ня ўступіць, або ня будзе пераможаны. Падарожа мін. Чіано ў Белград азначае тое, што Італія, здабываючы для сябе абшар Міжземнага мора, ня спускае з вока і эўрапэйскіх спраў. Мусоліні ведае, што вось Рым - Бэрлін толькі тады будзе сільнай, калі будзе зроўнаважанай г.зн. калі абодва канцы восі будуць мець аднолькавую вагу. Пасьля-ж далучэньня Аўстрыі і Судэтаў, нямецкі канец восі зрабіўся ўдвая цяжэйшы за італьянскі — і дзеля гэтага Мусоліні стараецца „выраўняць“ цяжар восі праз далучэньне да сваей палітыч. сыстэмы ня толькі Гішпаніі, але Югаславіі і Вугрыі... Апроч гэтага ёсьць ведамым фактам, што і Польшч мае болей сымпатыі для далёкага і лягчэйшага „італьянскага“ канца восі, чым да бліжэйшага і цяжэйшага „нямецкага“. І гэта зусім зразумела. Дык трэба ўважна сачыць за далейшымі падзеямі на гэтай восі, тымболей, што ў хуткім часе мін. Чіано прыяжджае ў Варшаву.

Што датыча падарожы ў Бэрлін чэскага мін. Хвалькоўскага, дык ён туды здаецца быў выкліканы ням. урадам. Спачатку былі разыйшоўшыся чуткі, што чэхі, апамятаўшыся пасьля верасьневай (мін. году) катастрофы, прабуюць весьці самастойную палітыку і супрацiўляюцца ўвайсьці цалком у ням. палітычную сыстэму. Аднак пазьнейшыя весткі паказалі, што Чэхасл. пайшла на далейшыя ўступкі перад Ням., даючы нямецкай меншасьці, якая яшчэ асталася ў Чэх., вялікія правы і прывілеі, аж да арганізаваньня ўваружаных аддзелаў! Незразумелай толькі ёсьць зьмена чэскіх адносін да Карп. Украіны, куды на міністра вайсковых і нутраных спраў назначаны чэскі ген. Прхаля, ведамы русафіл, які пачаў змаганьне з украінскім урадам Валошына і Рэвая. Да таго дайшло, што ўрад Карп. Украіны адклікаўся да інтэрвэнцыі Бэрліна, а ген. Прхаля сканфіскаваў орган прэм'ера Валошына „Нову Свободу“! Паміж укр. січавымі стральцамі і чэскімі жандармамі адбываюцца штодня крывавыя сутычкі па ўсім прасторы Карп. Украіны, прыгэтым чэскае войска заўсёды становіцца на старане сваіх жандармаў. Назначэньне ген. Прхалі чэскі ўрад тлумачыць тым, што трэба бараніць Карп. Украіну ад Вугрыі, тымчасам вугорскі мін. Чакі заявіў, што Вугрыя ня мае ніякіх прэтэнсіяў адносна Карп. Украіны. Ясна, што Вугрыя, далучыўшыся да антыкам. пакту, проціў Бэрліна ня пойдзе, тымболей, што спадзяецца пры яго помачы адабраць ад Румыніі Сяміградзьдзе.

Да вялікіх сэнсацыяў належаць чуткі, што ў Маскве вядуцца гандлёвыя і быццам нават палітычныя гутаркі паміж Нямеччынай і Саветамі! Кажуць, што Ням., выстаўляючы на Захадзе каляніяльныя жаданьні, шукае на Усходзе нэўтральнасьці ня толькі Польшчы, але і Саветаў... Цікава адзначыць, што гэтакія-ж гутаркі вядуцца ў Маскве такжа паміж Польшчай і Саветамі! І гэта зразумела, бо Польшч ня можа дапусьціць да збліжэньня паміж Нямеччынай і Саветамі.

Углыбіліся мы ў тайніцы палітычнага жыцьця, хочучы даць сапраўдны малюнак тэй дыпляматычнай ігры, якая адбываецца на нашых вачох. Кожны разумее, што „голыя“ факты, якія падаюцца ў газэтах, яшчэ не даюць сапраўднага і вернага малюнку паліт. жыцьця. Але пяройдзем і да фактаў.

Першым фактам, які мае вялікае значэньне, ёсьць узяцьце паўстанцамі Барцэлёны, сталіцы Каталёніі, другім — прамова Гітлера, трэцім — прамова Чэмбэрлена.

### УЗЯЦЬЦЕ БАРЦЭЛЁНЫ.

Ад 24. XII. 38 паўстанцы вядуць бязупыннае наступленьне на Каталёнію, з тэй мэтай, каб зьліквідаваць паўночны фронт і дайсьці да франц. граніцы на ўсім яе працягу. Маючы вялікія тэхнічныя магчымасьці, яны зламалі тры абаронныя лініі рэспубліканцаў, прыгэтым было ўзята ў палон болей 40 тысяч — і 27. I. увайшлі ў Барцэлёну. Разьбітыя рэспубліканцы ў паніцы ўцякаюць у кірунку франц. граніцы. Ратаваць палажэньне ўзяліся тры міжнародныя брыгады, будуючы яшчэ адну абаронную лінію, але знаўцы кажуць, што палажэньне іх безнадзейнае. Пасьля ліквідацыі каталёнскага фронту паўстанцы маюць да вясны зьліквідаваць і мадрыцкі фронт, што астаўся ўнутры Гішпаніі. Францыя баіцца падаць помач рэспубліканцам, бо Мусоліні змабілізаваў тры дывізыі і дзяржыць іх напагатове ў Генуі, каб у прыпадку франц. помачы паслаць іх у Гішпанію, на афіцыяльнае змаганьне з Францыяй...

Узяцьце Барцэлёны вельмі ўзмацавала палажэньне фаш. блёку на Захадзе Эўропы і пазволіла Гітлеру паставіць каляніяльныя жаданьні.

### ПРАМОВА ГІТЛЕРА і АДКАЗ ЧЭМБЭРЛЕНА.

Усе спадзяваліся, што Гітлер спачатку пойдзе на Ўсход, а потым ужо зажадае ад Англіі і Францыі калёніяў. Аднак сталася наадварот. У сваей прамове (30.I.39) **Гітлер афіцыяльна зьвярнуўся да Англіі і Францыі з жаданьнем звароту даўнейшых нямецкіх калёніяў** — і гэта ёсьць найважнейшы пункт прамовы Гітлера. Апроч гэтага Гітлер заявіў, што ў магчымым аружным канфлікце паміж Італіяй і Францыяй, Нямеччына здэцыдавана стане на старане Італіі. Значыць, Гітлер зьвярнуўся тварам да Захаду. Цяпер для нас яшчэ болей стануць зразумелы ягоны дыплямат. гутаркі на Усходзе... „Głos Nar.“ (1.II) ня верыць, каб Гітлер адказаўся ад сваіх усходніх плянаў і падазрае, што ў ягонай тактыцы крыецца нейкая тонкая і глыбокая ігра, якой дасьледзіць трудна. Ставячы жаданьні звароту калёніяў, Гітлер адначасна будзе рыхтавацца на Ўсход... „Słowo“ (1.II) у гэтай справе піша, што для палякоў трудна згадзіцца з такімі думкамі Гітлера: „Даражэнькія палякі, маю цяпер, як бачыце, галаву занятую сваімі каляніяльнымі справамі. Як іх **скончу,** дык пагутарым у справах, якія вас інтарасуюць“. Дзеля гэтага „Słowo“ жадае, каб **цяпер** правесьці гутаркі з Нямеччынай ва ўсіх, датычачых Польшч і Нямеччыну справах.

У адказ на пастаўленыя Гітлерам дамаганьні калёніяў частка франц. і англ. прэсы піша, што ўканцы можна было-б калёніі і аддаць, пад варункам, што Ням. ня будзе ставіць новых жаданьняў. **Чэмбэрлен** у сваей прамове (31. I) заявіў, што ён вельмі рад, што Гітлер хоча, каб паміж Ням. і Англіяй панаваў дух узаемнага даверу і супрацоўніцтва, але разам з гэтым сьцьвердзіў, што ў сучаснасьці ніякія гутаркі паміж Бэрлінам і Лёндынам не прадбачаны... Аднак, паміма гэтай заявы Чэмбэрлена, ўсе пракананы, што ў недалёкай будучыне будзе склікана **вялікая міжнародная канфэрэнцыя,** якая займецца падзелам калёніяў і перадзелам сьвету.

На міжнароднай канфэрэнцыі маюць разглядацца такія справы: падзел калёніяў, мытныя і наагул эканамічныя справы, абшары дзеля эміграцыі асабліва жыдоў, справы разаружэньня і іншыя.

Польшч, як чуваць, на гэтай канфэрэнцыі мае такжа высунуць свае каляніяльныя жаданьні, каб мець абшары дзеля эміграцыі. Калі гэта станецца, Польшч стане ў радох дзяржаў галодных. Ці на гэта мілым вокам будуць глядзець Францыя і Англія — гэта ўжо іншая справа.



Рэдактар-выдавец:
мгр. В. Гадлеўскі.

Redaktor i wydawca: mgr. W. GODLEWSKI. Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko. Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.